*Рэгіянальныя хваробы «чацвёртай улады» (стар. 2) «Колькі ваўка не кармі, таварышы ў яго ўсё роўна ў тамбоўскіх лясах». Артыкул А.Старыкевіча (стар. 4)*


# СВАБОДА

Год заснавання 1902
Выходзіць з 1990
Галоўны рэдактар Ігар Гермянчук
Заснавальнік і выдавец Павел Жук
Наклад 90.000
Адрас рэдакцыі:
220088, Мінск, вул.Іванаўская, 56
Тэл./факс 2 362 441

Пятніца, 7 сакавіка 1997 г. | № 25 | Кошт свабодны


## Дэманстрацыі ў дэкрэце

*Лукашэнка ўвёў жорсткія абмежаванні на правядзенне вулічных акцый*

Учора быў апублікаваны прэзідэнцкі дэкрэт, якім Лукашэнка адмяніў прыняты ў часы Гарбачова (1988 г.) заканадаўчы акт Прэзідыума ВС БССР, які дагэтуль рэгуляваў парадак правядзення дэманстрацый і мітынгаў.

Мінскі дыктатар вырашыў усталяваць свой парадак — такі, каб у ягоных апанентаў не ўзнікала нават думкі публічна пратэставаць . У адпаведнасці з дэкрэтам, практычна любая акцыя (у т.л. санкцыянаваная) можа быць разагнаная міліцыяй. Напрыклад, разгону падлягаюць вулічныя мерапрыемствы, дзе выкарыстоўваюцца плакаты і транспаранты, *«унижающие честь и достоинство должностных лиц государственных органов»*, альбо прысутнічаюць *«флаги и вымпелы, не зарегистрированные в установленном порядке»*.

Для парушальнікаў «новага парадку» Лукашэнка ўвеў фантастычныя пакаранні. Напрыклад, за выкарыстанне «незарэгістраванай» сімволікі ўдзельнік дэманстрацыі можа быць аштрафаваны на суму ад 10 да 100 мінімальных зарплат альбо пасаджаны за краты на тэрмін ад 3-х да 15-ці сутак.

Не дазваляюцца ніякія публічныя акцыі (у т.л. пікеты) паблізу будынка адміністрацыі прэзідэнта, Дома ўрада і тэлерадыёкампаніі (у радыусе 200 метраў), каля судоў, органаў пракуратуры, міністэрстваў, выканкамаў, дыпламатычных прадстаўніцтваў (у радыусе 50 м).

У дэкрэце ёсць і такі пункт (цытуем): *«До получения разрешения на проведение собрания, митинга, уличного шествия, демонстрации или пикетирования организаторы указанных мероприятий не вправе осуществлять их подготовку, в том числе объявлять в средствах массовой информации о времени и месте их проведения, изготавливать и распространять с этой целью листовки, плакаты и иные материалы»*.

Апазіцыйныя сілы расцэньваюць гэты прэзідэнцкі дэкрэт як незаконны акт. Лявон Баршчэўскі, які выконвае абавязкі старшыні БНФ, у інтэрв'ю карэспандэнту СВАБОДЫ адзначыў: *«Згодна Канстытуцыі парадак правядзення сходаў, мітынгаў, вулічных шэсцяў, дэманстрацый і пікетавання вызначаюцца законам. Канстытуцыя не прадугледжвае, што па гэтым пытанні прэзідэнт мае права прымаць нейкія дэкрэты. Заўважце: прэзідэнт у сваім дэкрэце сам уводзіць меры пакарання, прычым нерэальныя, памеры штрафаў не адпавядаюць таму ўзроўню зарплаты, якую ў Беларусі атрымліваюць дзякуючы «рыначнаму сацыялізму». Гэты дэкрэт ёсць не што іншае, як сведчанне памкненняў кіруючай каманды ўзаконіць вынікі лістападаўскага дзяржаўнага перавароту. Народны фронт дзейнічае і будзе дзейнічаць у строгай адпаведнасці з законам і міжнародным правам»*.

Мікола ГРЫНЯВІЦКІ

## Лукашэнка паехаў «паглыбляцца»

**Сёння ў Маскве адбудуцца перамовы прэзідэнта Лукашэнкі з прэзідэнтам Барысам Ельцыным, прэм'ер-міністрам Віктарам Чарнамырдзіным і міністрам замежных справаў Яўгенам Прымаковым. Чакаецца прыняцце сумеснай заявы наконт беларуска-расійскай інтэграцыі.**

Хутчэй за ўсё, акрамя чарговага «паглыблення», ніякіх кардынальных зменаў не адбудзецца. Ідэя пра аб'яднаўчы рэферэндум такі не прагучала ў штогадовым пасланні расійскага прэзідэнта да Федэральнага сходу. Прэзідэнт Ельцын падкрэсліў у першую чаргу неабходнасць «эканамічнага збліжэння», што, як вядома, прадугледжвае сінхранізацыю эканамічных рэформаў.

Нельга не адзначыць пэўную нервовасць афіцыйнага Мінска перад візітам у Маскву. Міністр замежных справаў Іван Антановіч раздражнёна заўважыў, што *«цяпер усе раптам захацелі аб'яднання»* і, маўляў, спрабуюць вырваць пальму першынства з рук прэзідэнта Лукашэнкі. Шэф беларускага МЗС падкрэсліў, што няма неабходнасці ў правядзенні новага рэферэндуму, бо думка народа *«добра вядомая»*.

А.Д.

## У Маскве ўжо праводзяць «рэферэндум»

**Напярэдадні візіту Лукашэнкі ў Маскву дэпутат расійскай Дзярждумы Мікалай Ганчар заклікаў «исправить беловежскую ошибку».**

Цікава, што гэты зварот дэпутат адрасаваў не толькі прэзідэнтам Расіі і Беларусі, але і ўсім масквічам. Жыхары «белакаменнай» знайшлі ў сваіх паштовых скрынках паперку ад Ганчара, у якой расійскі парламентарый просіць іх *«высказаться по вопросу референдума об объединении с Белоруссией»*. Выказаць сваё меркаванне на гэты конт дэпутат прапанаваў па тэлефоне, надрукаваўшы ва ўлётцы аж 40 тэлефонных нумароў, па якіх могуць званіць усе зацікаўленыя.

Мікола ГРЫНЯВІЦКІ

## На пенсіі няма грошай

**Вясной гэтага года выплата пенсій у Беларусі можа быць сарваная.**

Як паведамілі ў фондзе сацыяльнай абароны насельніцтва, на 5 сакавіка ў пенсійныя фонды паступіла толькі 34,8% ад патрэбных сродкаў. На думку намесніка кіраўніка фонду Л.Пісарчыка, у сакавіку яшчэ ўдасца выплаціць пенсіі поўнасцю і своечасова. Аднак сітуацыя вельмі трывожная.

Як падкрэсліў Л.Пісарчык, становішча стане крытычным, калі прадпрыемствы не пачнуць ужо бліжэйшым часам пакрываць сваю запазычанасць перад фондам сацыяльнай абароны. Сума гэтай запазычанасці складае каля 1,8 трыльёна рублёў, а з боку прадпрыемстваў не спыняецца паток просьбаў аб адтэрміноўках па плацяжах. Як падкрэсліў Л.Пісарчык, калі самым бліжэйшым часам запазычанасць прадпрыемстваў перад фондам не пачне пакрывацца, своечасовая выплата пенсій будзе немінуча сарваная.

## Падарунак «сярэдняму брату»

**У сераду на радзіме прэзідэнта Украіны Л.Кучмы ў вёсцы Чайкіна Чарнігаўскай вобласці прыбавілася трактараў.**

У гэты дзень адбылася ўрачыстая цырымонія перадачы двух трактараў МТЗ, якія А.Лукашэнка падарыў калектыўнаму сельскагаспадарчаму прадпрыемству імя Шаўчэнкі. Гэты «падаруначак» каштуе ні многа ні мала 67.800 долараў ЗША.

*БелаПАН*

## Любіць па-руску

**Як сведчыць статыстыка, летась краіны СНД зменшылі сваю запазычанасць Расіі на 3 трыльёны расійскіх рублёў. Мяркуецца, што сёлета скарачэнне будзе яшчэ больш значным — на 4,5 трыльёны.**

Здавалася б, такая тэндэнцыя павінна задавальняць Крэмль. Між тым пазіцыя некаторых кіраўнікоў Расіі сведчыць, што гэта не так. Напрыклад, віцэ-прэм'ер РФ Валерый Сяроў у сваім выступе, змешчаным нядаўна маскоўскім друкам, выказаўся на гэты конт наступным чынам: *«Мяне хвалюе пытанне: што адбудзецца, калі краіны СНД раптам выплацяць усе даўгі — якія тады ў нас застануцца рычагі ўплыву?»*

Міхась СТЭЛЬМАК

*ДА ЧЫТАЧОЎ*

## Пакажам тым, хто нас не любіць, іхнюю ж дулю!

Шаноўныя чытачы, многія з вас ужо афармілі падпіску на II квартал, і мы вам шчыра ўдзячныя за падтрымку і салідарнасць. Мы працуем для вас, мы — з вамі, разам мы — сіла.

Але, можа быць, вы, вашыя сябры, родныя, суседзі яшчэ не схадзілі на пошту або ў аддзяленне Белсаюздруку і не запоўнілі ў падпісным абанеменце — газета СВАБОДА, індэкс 63887. Зрабіце так — і кожны аўторак, сераду і пятніцу проста ў вашай паштовай скрыні будзе свежы нумар СВАБОДЫ. А гэта — навіны пра ўсё самае важнае, што адбываецца ў нашай краіне. Гэта — палітычны і эканамічны аналіз. Гэта — міжнародная інфармацыя, якая пазнаёміць вас з тым, як жыве, чым заклапочаны і з чаго смяецца свет. Гэта — агляд культурных падзей, спартыўных рэкордаў і няўдач. І, канечне ж, кожную пятніцу вы будзеце мець праграму тэлевізійных перадач на наступны тыдзень.

Паміж рэдакцыяй і вамі, дарагія чытачы, ёсць пасярэднік — пошта. Гэта руплівыя паштальёны з сумкамі цераз плячо, нястомныя вадзіцелі паштовых машын, акуратныя сартавальнікі і... кабінетныя чыноўнікі і чыноўніцы. Чыноўнікі спачатку сказалі нам, што ў час падпісной кампаніі мы можам *«размясціць рэкламу ў аддзяленнях сувязі»*. Нам непатрэбная камерцыйная рэклама. Але мы хацелі яшчэ раз нагадаць чытачам пра прынцып, якім мы кіруемся ў нашай штодзённай працы, і падрыхтавалі свой знак, сваю ўлётку: «Хочаш ведаць праўду — выпісвай газету СВАБОДА».

Аднак пасля чыноўнікі схамянуліся, і адна паважная дама адназначна дала зразумець: дзяржаўнае прадпрыемства «Белпошта» можа дазволіць рэкламу толькі *«изданий государственной направленности»*. Для незалежных выданняў *«в отделениях связи нет места»*.

Чыноўнікі не ўмеюць думаць шырэй за сцены кабінетаў. Яны не ўлічылі, што ў нас ёсць сіла, якой не маюць газеты «дзяржаўнай накіраванасці». Гэта — вы, дарагія чытачы. Дзяржчыноўнікі хацелі паказаць нам дулю, але ў іх нічога не атрымаецца.

На апошняй старонцы сённяшняга нумара — чатыры ўлёткі. Выражце іх, дайце ў рукі сваім сябрам, калегам, суседзям. Занясіце на святочную гасціну, на якую пойдзеце заўтра. Вазьміце з сабою на працу. Хай нас стане больш. Пакажам тым, хто нас не любіць, іхнюю ж дулю!

Нагадаем, што з красавіка наша газета стане таўсцейшай: аўторкавы нумар будзе выходзіць на васьмі старонках. І яшчэ: кошты газетнай паперы растуць, даражэюць паслугі друкарні, таму з наступнага месяца нам давядзецца падняць цану на газету ў кіёсках Белсаюздруку. Аднак інфляцыя можа зрабіць слабейшым рубель — але не нашую ўпэўненасць у справе, якую мы робім разам з вамі і для вас, дарагія чытачы.

**ХОЧАШ ВЕДАЦЬ ПРАЎДУ?**
**ВЫПІСВАЙ ГАЗЕТУ СВАБОДА**
ПАДПІСКА ПРАЦЯГНУТА ДА 18 САКАВІКА

## Дзесяць сутак за «Беларусь – у Еўропу»

**Дзесяць сутак арышту атрымаў адзін з лідэраў маладзёжнай фракцыі БНФ 23-гадовы рабочы Алесь Сарнацкі.**

Такое рашэнне вынес у мінулую сераду суд Цэнтральнага раёна г.Мінска. Хлопца абвінавацілі ў арганізацыі несанкцыянаванага шэсця і парушэнні грамадскага парадку 14 лютага — падчас правядзення ў Мінску маладзёжнай акцыі «Беларусь — у Еўропу». Адміністратыўная справа на Сарнацкага была заведзена толькі таму, што ён падаваў заяўку на правядзенне шэсця ў гарвыканкам.

Суддзя В.Есьман праігнараваў той факт, што А.Сарнацкі асабіста не ўдзельнічаў у шэсці, бо ў гэты дзень хварэў. Суддзю не пераканаў нават прадстаўлены Алесем бальнічны лісток. Суддзя заслухаў сведак-міліцыянтаў і хутка вынес прысуд. У зале суда Сарнацкі заявіў, што распачынае галадоўку.

Альгерд НЕВЯРОЎСКІ

## Віннікава хварэе ў следчым ізалятары

**Следчыя дзеянні па справе Тамары Віннікавай часова прыпыненыя па прычыне рэзкага пагаршэння стану здароўя падследнай.**

Днямі экс-старшыню Нацбанка Тамару Віннікаву ў следчым ізалятары КДБ наведаў спецыяліст па ўралагічных хваробах шпіталю КДБ, які абследаваў яе пашкоджаную нырку. Траўму Т.Віннікава атрымала два гады таму ў дарожна-транспартным здарэнні. На працягу ўжо некалькіх дзён у Т.Віннікавай павышаная тэмпература і кепскія аналізы.

*БелаПАН*

## Кідай працу – заўтра свята!



# Рэгіянальныя хваробы «чацвёртай улады»

*Самым слабым звяном у сістэме незалежных СМІ дагэтуль з'яўляюцца мясцовыя выданні, лёсу якіх не пазайздросіш*

Становішча са свабодай слова ў раёнах Беларусі выклікае ўсё большую трывогу. З'езд Беларускай асацыяцыі журналістаў, які адбыўся нядаўна ў Мінску, назваў гэтае становішча катастрафічным і заклікаў усе зацікаўленыя бакі *«змяніць сітуацыю»*.

## Сумныя параўнанні

Па афіцыйных дадзеных, у Беларусі зарэгістравана прыкладна 700 друкаваных выданняў, большасць з якіх — недзяржаўныя. Але лічбы на паперах зусім не адпавядаюць рэаліям. (Не будзем закранаць электронныя СМІ, дзе дзяржава ніколі і не губляла татальнага кантролю.) Гэтыя рэаліі вельмі сумныя. Сярод недзяржаўных СМІ ў апошнія гады рэзка змяншаецца колькасць грамадска-палітычных і інфармацыйных выданняў, і ў першую чаргу мясцовых. Калі 5 год таму назіраўся сапраўдны бум мясцовай прэсы, журналісты адчулі смак і патрэбу ў тым, каб працаваць не на начальства, а на звычайнага чытача, то цяпер усё вяртаецца «на кругі свае». Зноў былыя партыйныя раёнкі, частка з якіх змянілі назвы, абслугоўваюць хутчэй уладу, чым чытачоў, атрымліваючы за гэта хоць невялікія, але трывалыя грошы. Між тым журналістам-незалежнікам даводзіцца самім клапаціцца аб заробках, а яны апошнім часам рэзка зменшыліся. Акрамя эканамічных цяжкасцяў, супрацоўнікі недзяржаўных выданняў у раёнах падвяргаюцца ўсё большаму маральнаму ціску. Быць апазіцыянерам, нават у абласным цэнтры, — зусім не тое, што з гонарам франдзіраваць у Мінску, а ўжо пра райцэнтр няма чаго і казаць. Тут апазіцыянер як чужынец, а тым больш журналіст, які, у адрозненне ад прадстаўнікоў многіх іншых прафесій, не мае магчымасці схаваць свае погляды. Пасля ўсталявання сістэмы «вертыкальшчыкаў» працаваць мясцовым незалежным СМІ стала яшчэ цяжэй: іх выкідаюць з дзяржаўных друкарняў, цягаюць па судах, абкладваюць штрафамі і рознымі паборамі. Як вынік, за мінулы год у раёнах зачыніліся ці перасталі рэгулярна выходзіць больш двух дзесяткаў газет і няма ніводнай, якая замацавалася б на рынку грамадска-палітычных выданняў.

## Пагоня за «Пагоняю»

Кінем хаця б беглы позірк на тое, што адбываецца ў абласных цэнтрах і раёнах. У Магілёве яшчэ два гады таму немалым поспехам карысталася незалежная гарадская газета **«Ратуша»**. З красавіка мінулага года яна не выходзіць, спробы запусціць іншыя праекты гарадскіх незалежных газет пакуль поспеху не мелі. (Апошні праект — **«Тыднёвік Магілёўскі»** — цяпер на старце.) Як і паўсюль, больш-менш някепска адчуваюць сябе выданні выключна эканамічнага накірунку (напрыклад, магілёўскі **«Коммерсант Беларуси»**, які можна набыць таксама ў Мінску). Аднак ніша незалежных грамадска-палітычных выданняў у Магілёве дагэтуль не занятая. У якасці галоўных прычын былы рэдактар «Ратушы» Генадзь Суднік называе адміністратыўны ціск уладаў і неспрыяльныя эканамічныя ўмовы (рэкламадаўцаў мала, а тыя, што ёсць, баяцца «свяціцца» ў палітычным выданні).

Прыкладна такое самае становішча ў Віцебску, дзе адзіная незалежная газета **«Выбар»** амаль спыніла сваё існаванне, а яе супрацоўнікаў цягаюць па судах за тое, што газета надрукавала верш Славаміра Адамовіча «Убей президента». Альтэрнатыву **«Віцебскаму рабочаму»** (газета былога абкама партыі, а цяпер «вертыкалі») мог бы скласці **«Віцебскі кур'ер»**, але ён нічым за лепшае ў «палітыку» не ўмешваецца. З раённых незалежных выданняў, што выходзяць у вобласці, варта вызначыць толькі **«Вольнае Глыбокае»**. Асобна стаіць на Віцебшчыне грамадская газета **«Лад»**, якую мясцовая інтэлігенцыя спрабуе зрабіць трыбунай незалежніцкай думкі. Але мяркуючы па тым, што «Лад» выходзіць раз на два месяцы, а то і радзей, справы ў яго выдаўцоў не бліскучыя.

*«А на Гомельшчыне з мясцовымі незалежнымі газетамі ўвогуле «завал»*, — так катэгарычна ацэньвае становішча гомельскі журналіст Анатоль Гатоўчыц. З больш-менш значных газет ён здолеў назваць толькі рэкламны штотыднёвік **«Ярмарка»**, газету **«Запретная зона»**, разлічаную на пасажыраў электрычак, ды **«Школьную газету»**, якая нейкім цудам яшчэ захавала сваю спецыялізацыю, але выдаецца нерэгулярна.

Крыху лепшая сітуацыя назіраецца ў заходніх абласцях Беларусі, хаця і там мала чым можна пахваліцца. Адзінай сапраўды незалежнай інфармацыйна-аналітычнай газетай у Брэсце застаецца **«Брестский курьер»**, які ўжо больш за 5 гадоў удала канкуруе з дзяржаўнымі выданнямі. Маючы немалы тыраж — 20 тысяч — «БК» збірае някепска «ўраджай» і з рэкламнай нівы, што, у выніку, стала прычынай яшчэ аднаго канфлікту газеты з уладамі: нядаўна «вертыкаль» загадала незалежным выданням, у тым ліку і «Кур'еру», адлічваць у мясцовы бюджэт 5% ад рэкламных прыбыткаў, тым часам як дзяржаўныя газеты ад гэтага «падатку» вызваленыя. Што ж тычыцца райцэнтраў Брэсцкай вобласці, то незалежнымі выданнямі могуць пахваліцца толькі Баранавічы (адна газета), Пінск (адно нерэгулярнае выданне) ды Івацэвічы, дзе да нядаўняга часу выходзіла **«Газета Уладзіміра Кудзінава»**, якую цяпер, пасля арышту дэпутата Кудзінава, відаць, зачыняць.

Становішча ў Гродзенскай вобласці адрозніваецца ад Брэстчыны хіба толькі тым, што тут некаторую актыўнасць праяўляюць дзяржаўныя ведамасныя газеты: **«Высота»**, якая абслугоўвае мясцовых будаўнікоў, і газета **«Милицейский вестник»**, на падтрыманне якой кіраўніцтву абласной міліцыі хапае грошай, што вельмі здзіўляе простых міліцыянтаў. А вось з незалежнымі інфармацыйнымі выданнямі справы дрэнныя. Толькі **«Пагоня»** больш-менш трывала замацавалася на газетным рынку, але апошнім часам улады вельмі настойліва імкнуцца прыкрыць гэты тыднёвік. Можна было б узгадаць яшчэ гродзенскі **«Молодежный курьер»** (штотыднёвік з накладам у 17 тысяч), але невядома, ці захавае ён далей сваю незалежнасць ад дзяржавы. Па звестках, стваральнікі лукашэнкаўскага саюзу моладзі паклалі на «МК» сваё вока і паспрабуюць зрабіць гэтую газету адным са сваіх прапагандысцкіх рупараў.

Несуцяшальныя падзеі адбываюцца і ў Мінскай вобласці. На мяжы закрыцця аказалася незалежная газета **«Барысаўскія навіны»**, якая ўжо не першы год змагаецца з мясцовымі ўладамі, як кажуць, не на жыццё, а на смерць. Тыя ж выпрабаванні напаткалі у Салігорску шахцёрскую газету **«Салідарнасць»**. Яна паспрабавала даць бой чыноўнікам-карупцыянерам і, здаецца, церпіць паразу.

## Рэгіянальны варыянт

Такім чынам, відавочна, што ў сённяшняй Беларусі мясцовая недзяржаўная газета ў прынцыпе не мае няшмат шанцаў, каб выжыць (калі друкуе не толькі аб'явы кшталту «куплю—прадам», але інфармуе чытачоў аб «подзвігах» мясцовых кіраўнікоў). Але і ў гэтых умовах, аказваецца, ёсць магчымасць захаваць выданне. Толькі не традыцыйнае, а такое, якое распаўсюджваецца адразу ў некалькіх раёнах, што гістарычна звязаныя ў адзін рэгіён. (Дарэчы, рэгіянальныя выданні — апрабаваны ў Еўропе і ў Злучаных Штатах метад існавання мясцовай прэсы.) І такія прыклады ёсць ужо і ў нашай краіне. Прывяду адзін.

У Маладзечне два гады паспяхова друкуецца недзяржаўны штотыднёвік з няхітрай назвай **«Рэгіянальная газета»**. Ягоныя чытачы жывуць у Маладзечанскім, Вілейскім і Мядзельскім раёнах Мінскай вобласці ды ў Ашмянскім і Смаргонскім Гродзенскай. Хто ведае геаграфію і гісторыю Беларусі, той можа ўявіць, які гэта цэльны кавалак нашай тэрыторыі, нягледзячы на яго прыналежнасць да розных абласцей. Каб мець поспех, трэба было толькі «зачапіцца» за своеасаблівасць характару жыхароў гэтых раёнаў, і гэта ўдалося маладзечанскаму журналісту Аляксандру Манцэвічу. Вось як ён вызначае сваё рэдактарскае крэда: *«Не быць падобнымі на былыя партыйныя раёнкі, не захапляцца палітыкай, але і не абмінаць тэмы, якія абмяркоўваюць людзі ў транспарце, не перагібаць палку, крытыкуючы мясцовых кіраўнікоў, але і не забывацца пра іхняе існаванне»*. Магчыма, рэдактары іншых мясцовых выданняў, якія «кладуць галовы» ў змаганні за свабоду слова, не пагодзяцца са сваім больш стрыманым калегам, але факт ёсць факт. «Рэгіянальная газета» не знікла, хоць прыгнятаюць яе падаткамі і арэндай, як і ўсіх астатніх.

Больш таго, за апошнія месяцы яна стала «таўсцейшай» і ўжо выходзіць нават на васьмі палосах. А.Манцэвіч выдае яшчэ адзін сакрэт поспеху «РГ». На яго думку, не назавеш варожым стаўленне да незалежнай дэмакратычнай газеты кіраўнікоў раёнаў, дзе яна распаўсюджваецца. *«Нашыя начальнікі ўсё ж адрозніваюцца ў лепшы бок ад сталічных»*, — сцвярджае рэдактар «Рэгіянальнай газеты», — *яны разумеюць, што вольнае слова патрэбна не толькі чытачам, але і ўладзе»*. І гэта натуральна, бо абапірацца можна толькі на тое, што аказвае супраціўленне, у той час як людзі без асабістых поглядаў здольныя быць толькі статкам, а не падыходзяць на ролю стваральнікаў поспеху тэрыторыі, на якой яны жывуць. Між тым, менавіта ад гэтага поспеху і павінна залежаць асабістая кар'ера дзяржаўных чыноўнікаў. На жаль, у большасці іншых рэгіёнаў Беларусі да гэтай простай высновы начальства ніяк не дадумаецца.

**Алег ГРУЗДЗІЛОВІЧ**

# Как ликвидировать безработицу?

*Очень просто!..*

**Интересные документы готовятся в недрах исполнительной власти. На этой неделе к нам попал совсем свежий проект декрета Лукашенко о дополнительных мерах по обеспечению занятости населения.**

Именно: «О дополнительных мерах по обеспечению занятости»! Человек с либеральными (= цивилизованными) взглядами может предположить, что в декрете должны быть предусмотрены разнообразные меры по созданию новых рабочих мест, в том числе по стимулированию развития малого предпринимательства, созданию инфраструктуры его поддержки, о выделении средств для кредитования начинающих предпринимателей, облегчении им арендной платы и налогов, упрощении регистрации и т.п. Человек с пропрезидентскими или левыми взглядами, конечно, подумает, что Лукашенко намерен вернуться к любезной сердцу ветеранов попытке «запустить» захиревшую «национальную гордость» — государственные фабрики и заводы, поскольку он не может представить, что бывший политрук пойдет по пути «поганых» реформаторов.

Ошибаются оба! Оказывается есть другой, совсем простой способ! Достаточно заставить безработных заработать свое пособие на общественных работах! Иначе говоря, безработному инженеру или учителю, чтобы получить 150—200 тыс. рублей в месяц, предстоит, например, подметать дней эдак пятнадцать городские улицы, причем в том районе города, где он сам проживает. Ясно, что регистрироваться в качестве безработного в службе занятости останется смысл лишь у бывшего госслужащего, который сможет получать пособие в размере средней заработной платы.

Как известно, пособие по безработице в соответствии с нашим законодательством является страховой выплатой. Для того, чтобы его получать, за каждого работающего предприятие ежемесячно уплачивает в государственный фонд содействия занятости один процент его зарплаты в качестве страховых взносов. Поэтому пособие по безработице уже заработано! И требовать еще раз его отрабатывать на общественных работах — по меньшей мере безнравственно. Кроме того, это противоречит ратифицированным страной конвенциям Международной организации труда.

Если же называть вещи своими именами, то это элементарный грабеж. Ну представьте, зачем страховаться, если для того, чтобы получить страховое пособие, например, за сломанную ногу, надо будет, кроме внесения страховых взносов, еще и отработать страховку!

Это ж надо, чтобы людей, вся вина которых состоит в том, что из-за безмозглой экономической политики властей они стали безработными, приравнять к пятнадцатисуточникам! До такого мог додуматься только г-н Посохов.

Однако «бацькава» задание уменьшить безработицу до 120 тысяч человек будет выполнено! И перевыполнено! Что и требовалось доказать.

**А.СОКОЛОВ**

# Осторожно: провокаторы!

**В нашей стране всякий может стать объектом преступных посягательств. Тем более, если у него есть хоть какие-то деньги.**

Трудно даже перечислить тех, кто может посягнуть на кошелек ближнего. Но недавно, после вступления в силу декрета президента «О мерах по обеспечению порядка при осуществлении валютно-обменных операций», компания потенциальных экспроприаторов чужой собственности пополнилась. К хулиганствующим тинейджерам, которые могут вас ограбить в день получки, рекетиров по призванию и по должности теперь подключилась армия государственных провокаторов.

Дело в том, что отныне всякие сделки граждан, осуществляемые неформально, запрещены и преследуются «по закону». И если вам позарез нужна «зелень», которой нет в обменном пункте, будьте сверхосторожны. Вполне возможно, что улыбка симпатичной гражданки, готовой вам помочь, идет не от сердца, а от принадлежности к «органам». И как только вы станете пересчитывать «баксы», улыбка сменится маской а ля майор Пронин. После этого должно последовать изъятие предмета сделки в пользу государства или самого «майора Пронина».

Многие уже убедились в этом на своем собственном опыте. Торговцы, например, к которым с мольбой обращаются покупатели с просьбой продать именно эту вещь и именно за валюту. Молят и убеждают так, что и профессиональные гадалки могут позавидовать. И если дрогнет сердце коммерсанта (что иногда бывает), то это доброе движение души тут же зафиксирует протокол. А дальше выбор невелик: конфискация, административный арест или экспроприация на развитие «провокаторского движения».

И хотя у нас, в Беларуси, рынок никакой, он уже установил равновесные цены на различные варианты. Так, на вещевых и иных рынках, милосердным торговцам на выбор предлагается: 500 долларов в карман «борца с коррупцией» или 15 суток административного ареста.

Вот такая она, очередная маска нашей власти в борьбе за лучшую жизнь.

**К.С.**

# Суд пастанавіў выселіць «Пагоню»

**5 сакавіка Гродзенскі гаспадарчы суд прыняў рашэнне выселіць з памяшкання рэдакцыю газеты «Пагоня» разам з беларускімі грамадскімі арганізацыямі. Судом вызначаны тэрмін — да 24 сакавіка.**

Галоўны рэдактар газеты Мікола Маркевіч заявіў, што рэдакцыя не зможа выселіцца, пакуль улады не вырашаць цывілізаваным чынам праблемы рэдакцыі, якія ўзнікаюць у сувязі з высяленнем. Кіраўнікі горада і вобласці адмовіліся гаварыць на гэтую тэму з рэдактарам, што ўскосна можа сведчыць, па словах М.Маркевіча, аб нежаданні знізіць напружанасць, якая ўзнікла ў выніку канфлікту вакол адзінай у Гродне беларускамоўнай газеты.

**Сяргей АСТРАЎЦОЎ**

# Жалезная заслона аднаўляецца

**У польскага журналіста Артура Путыгі беларускія памежнікі адабралі ўсе запісы і матэрыялы, звязаныя з парушэннем правоў чалавека ў Магілёве.**

За некалькі дзён у Магілёве карэспандэнт газеты *Trybuna Slaska* пабываў на паседжанні адміністрацыйнай камісіі, якая «судзіла» рабочага Цурпанава за карыстанне нацыянальным сцягам, убачыў пікет Свабоднага прафсаюза насупраць Магілёўскага аблвыканкама, а мясцовая група Хельсінкскага камітэта перадала яму зварот да польскай *Solidarności* і да ААН аб парушэннях правоў чалавека. Акрамя таго, журналіст узяў некалькі інтэрв'ю ў людзей, якія пацярпелі ад уладаў. Усе гэтыя матэрыялы, фотаздымкі, магнітафонныя і блакнотныя запісы памежнікі забралі, спасылаючыся на «інтарэсы нацыянальнай бяспекі».

**Сымон ГЛАЗШТЭЙН**

# Канцелярия президента советует устраивать пикеты

Уважаемая редакция! Убедительно прошу вас поместить в газете мое письмо, надеясь, что оно станет гласным для президента и он найдет 15 минут для обиженного ветерана войны и труда.

У нас — двух участников войны, арендовавших 5 га плодового сада — местные власти в лице Полоцкого райисполкома и Ветринского поселкового Совета отняли землю в нарушение всех законов. А все потому, что бывшим руководителям поссовета захотелось построить личные коттеджи около озера и в саду.

Наши обращения в Верховный Совет (трижды), в прокуратуры (начиная с районной и кончая Генеральной), в суды (общий и хозяйственный — вплоть до Высшего хозяйственного суда) заканчивались безрезультатно. Многие жалобы возвращаются в адрес Полоцкого райисполкома, руководители которого не заинтересованы помочь обиженным, они творят беззаконие и при этом ссылаются на законодательство.

Не лучше обстоит дело и в канцелярии президента. Чтобы попасть на запись, люди занимают очередь на улице и ждут с 6 утра до 9 часов — стоишь три часа на морозе или дожде, а в здание не пускают. Затем милиционер записывает фамилии, но чиновник канцелярии может отказать в приеме (как было со мной) и посоветовать устроить пикет, вместо того чтобы принять письмо для вручения президенту. Если он действительно «народный» президент.

Я думаю, что президент Лукашенко мог бы найти время для личного приема обиженных людей, хотя бы два раза в месяц.

**РОВНЕЙКО Владимир Петрович,**
*ветеран войны и труда, г.Новополоцк*

# Администрация заботится только о себе

*На зарплату денег нет, а на пьянку — пожалуйста*

Здравствуйте! СВОБОДУ выписываю постоянно. Очень люблю ее читать и прочитываю всю (только спорт не читаю). Я живу в Сморгони, и хотелось бы, чтобы о нашем городе писали хоть немного. Вот прочитал о забастовке на Могилевском автозаводе. У нас в Сморгони тоже бастуют. Например, 27 февраля забастовали рабочие Сморгонского завода оптического станкостроения, с 9:00 до 12:00 бастовал весь завод. Сначала собрались в цехе, а потом перешли в актовый зал и просидели там до 12 часов, слушая «басни» представителя администрации. А причина забастовки — несвоевременная выдача зарплаты за декабрь и январь. Кроме того, в апреле заводу исполняется 25 лет, и к этой дате руководство готовит грандиозный праздник (это в то время, когда люди месяцами не получают зарплату, а долг завода 65 миллиардов), готовится большая пьянка руководства по поводу юбилея. И на это деньги находят. Например, когда отмечалось 20-летие завода, пьянка была в д.Жодишки, в пионерлагере; там какой-то представитель из Минска так набрался, что свалился с балкона со второго этажа и сломал ногу. А теперь ремонтируют заводской дом охотника — наверное, там будут отмечать.

Вообще-то, забастовки на заводе бывают часто, после них обычно деньги находят и зарплату выдают. А как теперь будет — неизвестно. 27 февраля хотели идти на площадь к райисполкому, так называемому «белому дому», где в это время шла сессия. Но оттуда приехал заместитель председателя Гнилозуб и долго говорил с народом, до самого обеда; а тут все поспешили на обед и забастовка окончилась. Решили собраться еще раз, но неизвестно — может, побоятся. Потому что на следующий день после забастовки, 27 февраля, руководство начало преследование активистов, их заставляют писать объяснительные. Начальникам цехов нагоняй был за то, что допустили, недоглядели за инициаторами забастовок. Зарплата на заводе низкая — 400 тысяч, есть и меньше. Только руководство хорошо получает. Кроме того, они берут «дань» с малых предприятий, которых много на заводе. И вообще, руководство завода заботит только свое: коттеджи достроить и побольше украсть с завода.

**ГУРИН А.М.,**
*г.Сморгонь*

# Человек без собственности — как пыль на дороге

Уважаемая редакция! В вашей газете, которую регулярно прочитываю от «корки до корки», печатаются материалы, посвященные анализу текущих событий. Хотел бы высказать и свою точку зрения.

Вы правильно пишете, что президент ведет себя, как председатель страны: хочу — продам магазин, хочу — нет, хочу — белорусу, хочу — немцу; хочу — открою границу, хочу — закрою; хочу — объединюсь с Россией, хочу — не буду; хочу — повышу цены, хочу — дам по яйцу и т.д. Сейчас завернул страну в социалистическое прошлое, посадил в кабинеты старых коммунистов и мелких номенклатурщиков. Но мы же это проходили и убедились, что социализм — это утопия, при котором народу жить хорошо невозможно. Можно только номенклатурщикам, что и происходит. Идет массовое разворовывание страны. Причем под покровительством и при участии верховной власти. А народ нищает с каждым днем. Демократы же талдычат теоретические аксиомы. Не это надо делать, а раскрывать народу глаза, рассказывать, как идет жизнь в свободном мире, какие там порядки, как там и что. Рассказывать, что едят, где спят, на чем ездят, что покупают, как одеваются, как их охраняет полиция, какие отношения с мэрией, сколько и какие платят налоги, что написано в конституции и почему это так, а не так, как у нас. И говорить это надо на основании фактов и документов, доходчиво и убедительно, учитывая притчу К.Пруткова «Единожды сказавши правду, кто тебе поверит? Опять пытайся, и дважды, и трижды».

В свободном мире все граждане — собственники. Кто — хозяин завода, кто магазина, дома, порта, острова и т.п., а директор завода, мэр города, президент страны — это нанятые собственниками управляющие (приказчики), которые назначаются или избираются на определенный срок для успешного ведения дел. И, если с делом не справляются, то назначаются или избираются другие. Приказчики — не хозяева, они исполняют волю их нанявших, назначивших, избравших собственников, всего народа.

Не имея собственности, человек как пыль на дороге, как перекати-поле; ничто ему не дорого, не свято, ни за что он на земле не цепляется, ничто от него не зависит. И пока это не изменится, пока все, почти все имущество: земля, заводы, техника и т.д., не перейдут в собственность конкретных людей, положительных сдвигов в нашей жизни не будет. Короче говоря, нужно открыть подавляющему большинству народа мировоззрение свободного человека, собственника, гражданина, патриота, хозяина. И только тогда можно рассчитывать на победу демократии.

**Ф.ФЕДОРОВИЧ,**
*инженер, бывший коммунист (разуверившийся), г.Минск*

**ЛІСТЫ Ў АДКАЗ**

# В каждом стаде есть паршивая овца

Шаноўнае спадарства!

Прочитал письмецо «товарища» Дектева К.К. из Орши в № 22. Сначала было возмутился беспардонностью высказываний «старшего брата», но потом подумал: это ни к чему. К сожалению, он в чем-то прав. В том, например, что многим белорусам родной язык не нужен — это ведь не колбаса. «Старший брат» постарался вытравить из умов и сердец белорусов память о своей истории. Но хуже всего то, что выбили чувство Родины. Я наивно полагал, что человек может работать везде, но служить с оружием в руках — только своему народу (народу, а не правителям). Но я спросил одного белоруса, который служит в российской армии: *«В какой армии ты служишь?»* На что получил ответ с кривой усмешкой: *«В российской, конечно. Белорусская — это потешное войско!»* Как можно так отзываться о своей Родине? Это все равно, что бросить больную и бедную мать и уйти к другой — богатой, которая может тебя лучше накормить.

Другой «защитник» Беларуси сказал просто: *«Из студентов и выпускников ВУЗов военных не сделаешь. Научить танк водить и стрелять можно, но они уже не смогут выполнять приказы, не думая о том, что это за приказы»*. Я спросил: *«Так что — и в демонстрантов солдат должен стрелять?» «Да! Солдат должен выполнять приказ и не думать!»* Вот кто нужен нашим нынешним властям: 80 тыс. армии да 150 тыс. милиции, внутренних войск, КГБ. Они будут стрелять в народ, если им прикажут. Ведь зарплату им платят «на удивление регулярно», как сказал тот же офицер.

А взгляды тов.Дектева меня не удивляют. К сожалению, подобными взглядами народ российский заражен, смею сказать, в массе своей.

А насчет «ничего у вас не выйдет» хочу сказать, что это типичнейшая логика самоуверенного дурака. Хочется ответить: *«Не раскатывайте губу, товарищ Дектев К.К., г.Орша»*.

И еще. Я ничего не имею против русских, как и против других народов. Нет плохих народов, но, как говорится, в каждом стаде есть паршивая овца.

**ПОНОМАРЕНКО В.Н.,**
*г.Минск*

*P.S. Печатайте такие письма, как «от т.Дектева К.К., г.Орша». Они тоже работают на независимую Беларусь, на демократию.*

## *Радкі з лістоў*

Уважаемая редакция газеты СВАБОДА! Прочитав письмо Дектева К.К. из города Орши, я ужаснулся, что такие люди живут на нашей многострадальной земле да еще обливают ее грязью.

Я уверен, что не за горами то время, когда Беларусь освободится от существующего диктаторского режима и станет свободным, демократическим, независимым и правовым государством. Вам, г-н Дектев К.К., никто не давал права утверждать от имени многих граждан, что «никому не нужен этот деревенский язык». Это родной язык для меня и многих моих друзей. И если по недостатку желания или умственных способностей вы не знаете языка народа, среди которого живете, — то это ваша плебейская беда. И мне вас жалко.

**МИШЛАКОВ Михаил,**
*21 год, студент*

У адрозненне ад Дектева К.К. я жыву на нашай беларускай зямлі толькі 20 год, але я таксама «кое-что понимаю».

Што датычыць Амерыкі, у якой нам усім месца не хопіць, дык яна нам і не патрэбная. Нам патрэбная Беларусь, Вольная Беларусь. І без такіх, як вы, г-н Дектев К.К. Ваша «родина» — «Великая Россия» з ейнай Сібір'ю. Гэта якраз месца для такіх, як вы!

**В.БУЛАХОВІЧ,**
*студэнт*

